ПРОИСШЕСТВИЯ

## Опасный маршрут

*Родственники встревожены исчезновением 68-летней гражданки Беларуси Анны Лотыш, которая незаконно проникла на палестинскую территорию. Она пропала 17 июля, когда с группой граждан России и Украины выехали из сектора Газа в сторону Египта.*

Граждане различных стран покидают палестинскую территорию, где идут бои между террористами из Хамаса и израильскими войсками. Сектор подвергается бомбардировкам ВВС ЦАХАЛа в ответ на ракетные обстрелы израильских городов.

В секторе Газа проживает дочь Анны Лотыш Виолетта Абу-Нассар, которая призналась, что ее мать в свое время попала на палестинскую территорию нелегально, через подземный туннель под палестино-египетской границей. Вполне возможно, что именно это стало причиной исчезновения Анны Лотыш, так как она была задержана египетскими правоохранительными органами.

Представители белорусского МИД сообщили, что они связались с родственниками пропавшей белоруски, а также обратились к египетским властям для выяснения судьбы Анны Лотыш. Египетские пограничники сообщили, что накануне в Каир ушел автобус с группой лиц, подлежащих депортации. Есть ли среди них Анна Лотыш, не известно.

ІНІЦЫЯТЫВА

## Разам!

*На працягу ўсяго лета кожны аўторак з 18-й гадзіны ў Курапатах ладзіцца акцыя "Талака-2014".*

Арганізацыяй мерапрыемстваў займаецца грамадская ініцыятыва "За ўратаванне мемарыялу Курапаты". Паводле слоў старшыні камісіі АГП па рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій і кіраўніка Савета Мінскага аддзялення міжнароднага таварыства "Мемарыял" **Уладзіміра Раманоўскага,** *"працы запланавана вельмі шмат — непрыбранымі застаюцца каля 10 гектараў Курапат. Валанцёры прыбіраюць смецце, расчышчаюць дзікія заснікі хмызняку".*

*"Я запрашаю ўсіх неабыякавых людзей браць удзел у гэтай пачэснай справе",* — кажа Уладзімір Раманоўскі.

НАХОДКА

## Берестяная сенсация

*Во время археологических раскопок на Замковой горе в Мстиславле археологи нашли детские прописи на бересте, датируемые XII веком.*

По сути, это средневековая ученическая тетрадка. Ребенок, который учился грамоте, нацарапал на бересте буквы алфавита.

Это всего лишь третья берестяная грамота, найденная на территории Беларуси. Первую случайно нашли в 1959 году во время земляных работ на площади Свободы в Витебске. Вторая попалась на глаза ученым во время раскопок на той же Замковой горе в Мстиславле в 1980 году. Недалеко от этого места ждал своего часа и третий экземпляр. Археологи предполагают, что им удалось раскопать княжеский двор.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Правакацыя ці звычайная «хуліганка»?

*Праваабаронцу Андрэю Бандарэнку пагражае да 10 гадоў турмы*

*29 ліпеня ў судзе Кастрычніцкага раёна Мінска адбудзецца першае пасяджэнне па справе праваабаронцы, кіраўніка прадпрыемства "Платформа" Андрэя Бандарэнкі. Былога палітвязня абвінавачваюць у злосным хуліганстве, учыненым у п'яным выглядзе з выкарыстаннем фізічнай сілы. Андрэю Бандарэнку, які ў свой час прайшоў праз турмы і быў у выніку апраўданы, пасля чаго заняўся абаронай правоў асуджаных, цяпер зноў пагражае турэмны тэрмін. Да 10 гадоў пазбаўлення волі...*



### Перадача на «Валадарку»

...На стале мноства пакетаў з прадуктамі, сродкамі гігіены, усялякай неабходнай для тых умоў драбязой. Сябры і паплечнікі Андрэя Бандарэнкі — Алёна Красоўская-Каспяровіч і Мікіта Ліхавід — збіраюцца завезці на "Валадарку" чарговую 30-кілаграмовую перадачу. Каўбаса, цукеркі, розныя прысмакі з вялікім тэрмінам захоўвання, кава, гарбата, садавіна, гародніна, алей, рыба, а таксама кашы, пюрэ, якія не патрабуюць варкі...

*"Вельмі станоўчы момант, што Андрэй кінуў курыць,* — кажа былая намесніца Бандарэнкі, а цяпер кіраўніца „Платформы" Алёна Красоўская-Каспяровіч. — *Незадоўга да арышту ён перанёс запаленне лёгкіх. І ўрач папярэдзіў яго пра наступствы. Праўда, крыху цыгарэт мы перадаём яму, але ў якасці так званай турэмнай валюты".*

Паводле слоў Алёны, Андрэя трымаюць у двухмеснай камеры. Сусед Андрэя — чалавек, якому інкрымінуецца эканамічнае злачынства.

*"Андрэй нават сам амаль у кожным лісце адзначае, што стаўленне да яго як да зняволенага вельмі годнае, без аніякага ціску, абраз — карацей, такое, за якое змагаецца "Платформа",* — кажа калега Бандарэнкі.

На пытанне, хто падтрымлівае Андрэя ўвесь гэты час, што ён за кратамі, наколькі пашырылася ці, наадварот, звузілася кола яго сяброў, чую адказ: *"Перадачы, аплата адваката, падтрымка сям'і, грошы на разліковы рахунак для "атаваркі" ў турэмнай краме — гэта ўсё на плячах „Платформы". У мінулым месяцы з аплатай адваката дапамаглі бацька і сёстры Андрэя. Але мы будзем падтрымліваць яго і надалей..."*

### Што здарылася ў тую ноч?

Дык што здарылася ў тую ноч, калі Андрэя затрымала міліцыя, каб праз некалькі дзён змясціць пад варту?

Вось некаторыя звесткі, якія нам удалося сабраць у выніку размоў з блізкімі і суседзямі Андрэя.

Сям'я Бандарэнкаў (гаспадар, ягоная жонка Вольга і дачка Маша, якая сёлета пойдзе ў школу) жыве ў маленькай аднапакаёўцы ў пяціпавярховым доме на вуліцы Чкалава. Гаспадара ў двары бачылі рэдка. Андрэй шмат працаваў, бо фактычна быў адзіным карміцелем. Калі здараліся нейкія выхадныя, то ездзіў у вёску да бацькі, каб дапамагчы па гаспадарцы.

У той вясновы вечар перад працяглымі выхаднымі Андрэй сустрэўся з сябрам-аднакурснікам. Настрой у праваабаронцы быў дэпрэсіўны (гэта пачуццё ў сувязі з рознымі стрэсамі і характарам працы — дапамога сем'ям крымінальна асуджаных — апошнім часам нярэдка суправаджала яго). Вырашылі сустрэцца і пагутарыць з сябрам у кавярні непадалёк ад дома. Сядзелі дапазна, выпівалі... Калі вярталіся, ля Андрэевага пад'езда сустрэлі дзяўчыну з суседняга дома, якая ішла да сваёй маці. Тая жыве на два паверхі вышэй за Андрэя. Слова за слова, размова перайшла на крыкі, потым Андрэй нечакана моцна ці то стукнуў, ці то штурхнуў дзяўчыну. На крыкі выбегла маці, іншыя жыхары... Кажуць, што спробы супакоіць Андрэя былі беспаспяховыя, а таму выклікалі міліцыю. Удзельнікаў канфлікту завезлі ў РАУС. Там зноў адбыўся інцыдэнт, відэазапіс якога з'явіўся ў інтэрнэце.

Сёння тое, што здарылася з Бандарэнкам, трактуюць па-рознаму. Адны лічаць, што гэта была правакацыя, іншыя — што звычайная "хуліганка", у якую элементарна можна трапіць, калі пад уздзеяннем алкаголю страціш кантроль над сабой і тармазы не спрацуюць...

У тэлефоннай размове жонка Андрэя, 35-гадовая Вольга, якая нядаўна ўладкавалася на працу ў суседнім з домам дзіцячым садку, сказала, што падрабязнасцямі здарэння не валодае. З нашым карэспандэнтам гаварыла стрымана, ад сустрэчы адмовілася. Сказала, што не хоча шкодзіць сваёй размовай ні пакуль мужу, ні дачцэ. Адносна пацярпелых суседак нейкіх меркаванняў не мае, бо з суседзямі не кантактуе — *"гэтыя людзі звычайна радуюцца, калі ў кагосьці побач здараецца нешта кепскае".*

Тым часам бацька Андрэя на інтэрв'ю пагадзіўся. У сынаву віну ён не верыць. Паводле ягоных слоў, *"не было падстаў для першага зняволення ў 2008 годзе — сумніўна, каб яны былі для другога".*

### «Беды прыйшлі з-за палітыкі»

Валерый Рыгоравіч Бандарэнка жыве за паўдзясятка кіламетраў ад райцэнтра Кіраўск у вёсцы Выжары. У паселішчы шмат хат з закалочанымі вокнамі. Дамы старыя, але яшчэ моцныя. Такая хата і ў бацькі зняволенага праваабаронцы.

Пакуль дзве дачкі Валерыя Рыгоравіча завіхаюцца па гаспадарцы, гамонім з ім пад старой ліпай пра сынаву долю і вясковае жыццё. Спрацаваныя дужыя рукі суразмоўца трымае на каленях і толькі зрэдку падымае іх. Вочы ў сямідзесяцігадовага мужчыны колеру беларускага неба. Спачатку ён узіраецца ўдалеч, а потым адказвае на пытанне.

У Выжары Валерый Рыгоравіч перабраўся, калі сына пасадзілі першы раз. *"Трэба было неяк выжываць,* — тлумачыць ён, — *у сына была маленькая дачка, мая ўнучка, ды ягоная жонка. У нас у вёсцы ёсць і козачкі, і куры. Усё ёсць для таго, каб працей было пражыць, выжыць. Тут яшчэ лепей перажываюцца падобныя, як цяпер у мяне, стрэсы. Працы шмат, забываюся, бо працую".*

Валерый Рыгоравіч не выключае, што арышт сына звязаны з ягонай праваабарончай дзейнасцю і лідарствам у грамадскай арганізацыі "Платформа", якая выкрывала парушэнні ў калоніях і дапамагала былым асуджаным.

Гэтую дзейнасць адсочвалі спецслужбы, цвердзіць Бандарэнка-старэйшы. *"Калі пазбавіць арганізацыю кіраўніцтва, дык і арганізацыя можа знікнуць. Сачылі за гэтай дзейнасцю,* — мяркуе Валерый Рыгоравіч. — *Усё там падтасавана, падбіта. Дасць бог, гэта ўсё з часам высветліцца. Але я так думаю: дзякуй богу, што інкрымінуюць яму не што цяжэйшае. Маглі б чаго яшчэ знайсці горшага".*

На неадназначнасць абвінавачвання намякае ў сваіх лістах і сам Андрэй Бандарэнка. *"Вітаю, тата! Не думаў, што калі-небудзь зноў давядзецца камунікаваць з табой лістамі,* — чытае ўрывак з сынавага допісу Валерый Рыгоравіч. — *Але як ёсць, так ёсць. Як ты разумееш, усяго я табе ў лісце напісаць не магу, але можаш паверыць, што нічога такога, за што можна перажываць, я не рабіў. Усё наладзіцца. Галоўнае — не перажывай".*

Як і ў першую адсідку, бацька і сёстры будуць дапамагаць Андрэю вытрываць. А ці будуць гэта рабіць тыя, хто верыў у яго невінаватасць, калі зняволілі ў 2008-м? Тыя ж, да прыкладу, лідары Аб'яднанай грамадзянскай партыі і ягоныя паплечнікі? Бо цяпер жа яму інкрымінуюць злачынства, пад якім нібыта не праглядаецца палітыка.

*"Я думаю, што паплечнікі гэтак, як і я, не вераць у тое, што сын мог нешта падобнае ўтварыць. Гэта ж нармальныя людзі. Думаю, што будуць падтрымліваць",* — мяркуе бацька.

Беды ў сям'ю Бандарэнкі прыйшлі, калі ён стаў у 2008 годзе кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Паводле слоў Бандарэнкі-старэйшага, да прыватных фірмаў, дзе працаваў сын, нечападзявана з'явіліся прэтэнзіі ў кантрольных, а пазней і следчых органаў. Пры гэтым кіраўнікі фірмаў засталіся невінаватымі, а бізнес-кансультант Бандарэнка сеў на лаву падсудных:

*"Жыў-быў нармальны чалавек, працаваў, пакуль не ўзяў удзелу ў парламенцкіх выбарах. З гэтага ўсё і пачалося. Пачаўся пераслед. Пакуль выбары праходзілі, зніклі фірмы, на якія працаваў Андрэй,* — згадвае Валерый Рыгоравіч. — *Яшчэ не скончыліся выбары, а прадпрымальнікаў, якія дапамагалі Андрэю, ужо прыціснулі праваахоўныя органы. Мы тады ездзілі ды разбіраліся. А пасля адсідкі ён і пачаў займацца праваабарончай дзейнасцю. Дапамагаў людзям бараніць свае правы. За гэта яго і хочуць пакараць".*

З чым давялося сутыкнуцца сыну цягам першага зняволення, Валерый Рыгоравіч кажа з неахвотай. Адзначае, што Андрэю там было няпроста.

Ці спачуваюць Валерыю Рыгоравічу вяскоўцы ў гэты цяжкі для яго час?

*"Нашы людзі хутка ўсё забываюць. Штодзённы побыт забівае ўсё,* — са скрухай заўважае старэйшы Бандарэнка. — *Большасць людзей на сяле і не жывуць, а выжываюць. Тыя, хто разбіраецца ў сітуацыі, кажуць: „Ну што, падставілі Андрэя?", — альбо здзіўляюцца. „Што, ізноў?!" — кажуць. А так, каб нехта казаў, што сын нешта мог утварыць, то такога няма".*

### Быць справакаваным ці згубіць зямлю пад нагамі?

Колішні асуджаны па эканамічнай справе, прадстаўнік "Платформы" ў Віцебску, а да зняволення дацэнт Віцебскага тэхналагічнага інстытута, кандыдат тэхнічных навук Міхаіл Жамчужны называе выпадак з Андрэем няйнакш як правакацыяй. Паводле яго слоў, той, хто змагаецца за правы зняволеных, рызыкуе, што яго затрымаюць, арыштуюць, ізалююць ад грамадства. *"Асабіста я да гэтага гатовы. Думаю, быў гатовы да гэтага і Андрэй",* — кажа Жамчужны. Высновы пра правакацыю Міхаіл робіць, *"прааналізаваўшы міліцэйскі відэазапіс, а таксама ўлічваючы дзейнасць Бандарэнкі".*

— На відэа чалавек, які відавочна спіць. Ён сядзіць, дакладней — пасаджаны, непасрэдна перад камерай, у месцы, дзе ўсё запісваецца з добрай якасцю. Побач з мужчынам — жанчыны, якія сістэматычна перамяшчаюцца па кадры, нібыта шукаючы нейкія моманты, каб вывесці таго, хто спіць, з раўнавагі... У твар чалавека, які спіць, накіроўваецца фотаўспышка. Натуральна, чалавек у такім стане інстынктыўна абараняецца, нават не ўсведамляючы, хто перад ім.

Міхаілу падаліся некалькі дзіўнымі і іншыя моманты. Напрыклад, тое, што пры затрыманні ўдзельнікі канфлікту — як пацярпелыя, так і меркаванныя вінаватыя — знаходзяцца без нагляду міліцыі ў адным памяшканні. У парушэнне закона ў іх не канфіскаваны пэўныя прадметы, той жа тэлефон. Маючы яго, можна званіць магчымым сведкам, каб тыя далі заведама лжывыя паказанні. Таксама парушаны артыкул 18 Закона аб інфармацыі, калі без згоды чалавека вядзецца яго фотаздымка.

Міхаіл Жамчужны сцвярджае, што сілавікі ў мэтах арганізацыі канфлікту нярэдка выкарыстоўваюць жанчын, бо сімпатыі сведак хутчэй будуць на іх баку. Ён расказвае, што прыкладна тое ж самае магло здарыцца і з ім. У той самы час, калі пачаліся праблемы ў "Платформы", міліцыя стала хадзіць па ягоных суседзях, дапытвацца, як ён сябе паводзіць і ці п'е. А неўзабаве здарыўся канфлікт з суседкамі, з якімі ён дагэтуль вельмі добра ладзіў.

— Калі б была нейкая фармальная падстава, каб затрымаць, мяне затрымалі б, і я нічога нікому не даказаў бы. Мяне ратуе тое, што ўдаецца трымаць сябе ў руках, што я не п'ю ўвогуле. Бо інакш чалавека, які не хавае сваёй апазіцыйнасці, справакаваць вельмі і вельмі лёгка.

*(Радыё Свабода)*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# «...Ужо там мая радзіма»

Вольга Грынюк прыехала на радзіму ў Беларусь, каб пакінуць унука-ліцэіста на пляменніцу і вярнуцца назад у Луганск. Вольга жыве ў гэтым украінскім горадзе, які зараз стаў "гарачай кропкай", ужо 40 гадоў, працуе настаўніцай рускай мовы. Планавала вярнуцца дадому праз тыдзень, але давялося застацца:

— Муж пазваніў і сказаў, каб не ехала, бо бамбілі Трохізбінку, дзе наш дом. Сказаў, што пакуль не так усё страшна: дом цэлы, толькі вокны пабітыя. Украінскія войскі выбілі ЛНРаўцаў, але тыя акапаліся ў Славянасербску і адтуль абстрэльваюць горад. Разбамбілі мост, а па ім жа ўсё забеспячэнне адбывалася, бо раней яны іншыя масты разбамбілі. І цяпер з-за гэтага туды не дабрацца. У магазінах пуста. Хлеб не прывозяць. У маіх ёсць мука, так што пакуль трымаюцца. А я не ведаю, як вярнуцца. Паехала здаваць квіток, а касіркі на станцыі Нясята тры гадзіны не маглі з ім разабрацца. Потым сказалі, што грошы тут не вернуць, трэба ў сваёй краіне здаваць. Пазначылі на ім, што я спрабавала яго здаць, і ўсё. А нам жа патрэбна за нешта жыць, мы проста ў нейкай пастцы апынуліся. У мяне ёсць банкаўскія карткі, у Наваполацку прыйшла ў "Беларусбанк", але нічога не змагла зняць ні ў якой валюце. Дзяўчаты ўсяляк спрабавалі мне дапамагчы, але безвынікова. У расійскім "Альфа Банку" такая ж сітуацыя. Грыўні, якія ў мяне з сабой, таксама ў абменніках не бяруць. Кажуць, што можна паспрабаваць здаць іх у галоўным офісе Нацбанка, у Мінску. Дзякуй Богу, што дапамагаюць сваякі: хто 500 тысяч даў, хто мільён... Я ўпершыню трапіла ў такую сітуацыю. У нас жа ў Луганску долары немагчыма было набыць. Ну, я і прыехала з грыўнямі.

**— Калі прыйшло рашэнне з'ехаць з Луганска?**

— Калі ўжо ўсе пачалі вывозіць адтуль дзяцей. Майму ўнуку Вадзіму 16 гадоў. Ён вучыцца ў ліцэі з паглыбленым вывучэннем замежных моў. У яго класе 30 вучняў, у горадзе засталіся толькі трое. Там, канешне, цяпер не месца для падлеткаў... Нядаўна загінуў малады выкладчык Вадзіма...

Мы ж не маглі паверыць, што падзеі так будуць развівацца, усвядоміць, уявіць такога не маглі. Кожны год у красавіку я важу сваіх таленавітых вучняў у гэты ліцэй на фестываль "Прабуджаецца паэзія ўва мне". Сёлета не было ніякага ўрачыстага адкрыцця, мы нібы хаваліся ад некага, усе педагогі далі распіскі, што адказваем за дзяцей. Вось тады толькі я зразумела, наколькі ўсё сур'ёзна.

А гісторыя з маім былым вучнем?.. Данілу цяпер 19 гадоў. Сепаратысты далі яму аўтамат, і ён хадзіў такі задаволены, уяўляючы сябе дарослым. У аўтобусах пашпарты правяраў. Для яго гэта, натуральна, была гульня ў вайнушку. Тым часам у лагчыне ў лясочку сепаратысты моцны блок-пост усталявалі. Там былі казакі, некалькі нашых, мае былыя вучні і людзі, якіх мы не ведаем, — вайсковыя каардынатары. А ў сярэдзіне чэрвеня ўкраінскі верталёт даў па ім ракету. І вось Данілу адарвала руку. Дагуляўся...

— **Наколькі я ведаю, ваша родная вёска знаходзіцца ў Клічаўскім раёне на Магілёўшчыне. 48 гадоў таму вы паступілі ў Магілёўскі педінстытут, пасля заканчэння працавалі ў Таджыкістане, потым пераехалі ў Луганск. 40 гадоў пражылі ў Луганску. Калі б не вайна, можа, і не прыехалі б дадому. Якое ўражанне ад радзімы?**

— Была мая вёска прыгожая, чыстая. Людзі трымалі і свіней, і кароў, і качак, і гусей... Акуратныя агароды спускаліся да рэчкі. Усё пакошана, народу шмат. У лесе крыніцы з карцамі. У мяне дагэтуль настальгія па той маёй вёсцы. А цяпер, калі мы з унукам сышлі з цягніка, то я ўвогуле расплакалася. Усё зарасло, паўсюль крапіва, пустазелле па пояс, рэчка забруджана смеццем, агароды закінуты. Цяпер тут засталіся некалькі старых, іншыя дамы ўжо належаць дачнікам. Вёска, лічы, памерла.

Але самае страшнае — гэта п'янства. У нас на Данбасе п'юць, канешне. Я ж там 40 гадоў пражыла і магу сказаць, што такая праблема ёсць. Але такога п'янства, як у Беларусі, нідзе не бачыла. Як такое магло здарыцца ў такой краіне?! У нашай жа вёсцы не было ніводнага п'янтоса. Ну, па святах ці там з якой нагоды выпівалі. Напрыклад, кабана заб'юць ці талакой сена ўпарадкуюць — тады накрывалі сумесны стол. Але ж не напіваліся. А сёння я бачу п'яных жанчын, якія на нагах не стаяць. Што гэта?! У Клічаве кінулася ў вочы, што ў горадзе амаль няма мужчын. Вы, можа, прызвычаіліся, але мне дык дзіва было. Аказалася, мужчыны з'язджаюць на заробкі. Такое ўражанне, што недзе вайна, мужчыны на фронце, а тут адны жанчыны і дзеці.

— **Няма жадання пераехаць сюды, каб тут дажываць свой век?**

— Ды не... Ужо там мая радзіма. Я вельмі непакоюся за мужа. Ён нядаўна перанёс інфаркт. Дый дзеці папрасілі мяне ўнука адвезці, а самі вырашылі застацца. Спадзяёмся, што да 1 верасня ўсё скончыцца і мы зможам вярнуцца да працы і да вучобы.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ГЛЫБІНКА

## Рагачоўскім начальнікам «раздалі» па вёсцы

*Старшыня Рагачоўскага райвыканкама падпісаў распараджэнне, згодна з якім супрацоўнікі ўпраўленняў, аддзелаў выканкама і раённых службаў замацаваны за вёскамі раёна.*

Дадзенае распараджэнне падпісана *"ў мэтах працы з насельніцтвам, у тым ліку добраўпарадкавання сельскіх населеных пунктаў",* — піша раённая газета "Свабоднае слова".

Чыноўнікі, ці *"адказныя асобы, замацаваныя за населенымі пунктамі",* будуць удзельнічаць у мясцовых сходах, прыёмах грамадзян, пасяджэннях сельскіх выканкамаў, сесіях сельскіх Саветаў дэпутатаў, *"і другіх мерапрыемствах на замацаванай тэрыторыі". "А старшыні сельскіх Саветаў у сваю чаргу будуць кантраляваць ход выканання зваротаў і прапаноў, якія паступяць у час сустрэч з насельніцтвам, кожны месяц інфармаваць старшыню райвыканкама аб арганізацыі працы з насельніцтвам на тэрыторыях сельскіх Саветаў",* — патлумачыла сутнасць распараджэння раённае выданне.

У дакуменце падрабязна распісана, які начальнік замацаваны за канкрэтнай вёскай. Напрыклад, начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму "замацаваны" за Балатнёй, начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай працы — за Гадзілавічамі. Па вёсцы (а іх у раёне шмат, як і начальнікаў у райвыканкаме) атрымалі галоўныя і вядучыя спецыялісты аддзелаў райвыканкама, інспектары Дзяржтэхнагляду, ідэолагі розных рангаў, працаўнікі загсаў, бухгалтары і заатэхнік з раённай ветэрынарнай станцыі.

ОФИЦИАЛЬНО

# Припарковались по правилам?

*Но КГБ все равно получил право отбуксировать вашу машину*

В некоторые законы Республики Беларусь по вопросам обеспечения безопасности дорожного движения внесены изменения и дополнения.

В частности, статья 18.13 Кодекса об административных правонарушениях дополнена чч. 5—8, предусматривающими ответственность за превышение лицом, управляющим транспортным средством, установленной скорости движения, зафиксированное работающими в автоматическом режиме специальными техническими средствами, имеющими функции фото- и киносъемки, видеозаписи.

В новой редакции изложена статья 18.21 КоАП, устанавливающая ответственность за невыполнение требования об остановке транспортного средства, в том числе за невыполнение лицом, управляющим транспортным средством, неоднократных требований сотрудника органов внутренних дел об остановке транспортного средства, повлекшее преследование такого лица сотрудниками органов внутренних дел.

Также внесены изменения и дополнения в статью 18.22 КоАП, которая дополнена чч. 6—8, устанавливающими ответственность за остановку или стоянку транспортного средства с нарушением правил дорожного движения либо неправомерную стоянку транспортного средства на месте, отведенном для стоянки транспортных средств инвалидов, зафиксированные работающими в автоматическом режиме специальными техническими средствами, имеющими функции фото- и киносъемки, видеозаписи, а также ответственность за остановку или стоянку грузового автомобиля, автобуса, колесного трактора, самоходной машины, прицепа с нарушением правил дорожного движения, зафиксированные работающими в автоматическом режиме специальными техническими средствами, имеющими функции фото- и киносъемки, видеозаписи.

В закон "О дорожном движении" введена статья 191, регламентирующая принудительную отбуксировку (эвакуацию) транспортного средства, а также отбуксировку транспортного средства без помещения его на охраняемую стоянку. Так, предусмотрено, что в случаях, установленных законодательными актами, транспортное средство может быть принудительно отбуксировано (эвакуировано) и помещено на охраняемую стоянку.

Без помещения на охраняемую стоянку может быть отбуксировано транспортное средство в целях: выполнения задач, возложенных на органы государственной безопасности, в соответствии с законодательными актами Республики Беларусь; выполнения задач, возложенных на орган государственной охраны; устранения препятствия, созданного стоящим транспортным средством, движению, работе транспортных средств оперативного назначения и (или) транспортных средств дорожно-эксплуатационной, коммунальной служб при отсутствии иной правомерной возможности выполнения возложенных на них задач.

Принудительная отбуксировка (эвакуация) транспортного средства, а также отбуксировка его без помещения на охраняемую стоянку при наличии в этом транспортном средстве пассажира (пассажиров) запрещены.

За повреждения, причиненные транспортному средству во время его принудительной отбуксировки (эвакуации), нахождения транспортного средства на охраняемой стоянке, а также во время его отбуксировки без помещения на такую стоянку несут ответственность юридические лица, работники которых осуществляли принудительную отбуксировку (эвакуацию), хранение, отбуксировку транспортного средства без помещения его на охраняемую стоянку.

ВЗГЛЯД СО СТОРОНЫ

## *Да нет у нас губернаторов, сенаторов, мэров...*

Слушая передачи Белорусского телевидения и читая государственные СМИ, то и дело натыкаешься на нелепицу. Кому-то из высокого начальства, видимо, очень уж ласкает слух, когда их именуют "губернаторами", "сенаторами", "мэрами". А мне это совсем не нравится. Позвольте — ведь эти термины не соответствуют нашей сегодняшней действительности. Нет их в перечислении официальных должностей в Республике Беларусь, не указываются они в нашей Конституции. Живем мы пока у себя дома в XXI веке, а не в царской России в XIX.

На "гнилом Западе" подобные названия должностей существуют, но их там выбирают из нескольких претендентов. А у нас руководителей областей, городов, районов — исключительно назначают. Фактически таким образом попадает кое-кто и в Совет Республики. Но кому-то, похоже, угодно исповедовать принцип "Если нельзя, но очень хочется, то можно". Однако в таком случае им следовало бы добиваться внесения изменений в действующую Конституцию. Иначе получается смешной казус.

Считаю, было бы логично кое-кому расстаться с манией величия (все-таки назначенцы, а не избранники) и названия должностей официально именовать в соответствии с законом: скажем, "член Совета Республики Национального собрания" (а вовсе не "сенатор"); "председатель облисполкома" (а никакой не "губернатор") и так далее. Возможно, кому-то и кажется, что несуществующие пока названия высоких государственных должностей в их повседневно употребляемом, но официально не утвержденном виде звучат вроде "красивше", удобнее для произношения и даже более солидно. Пожалуй, с этим я и мог бы согласиться. Но ведь по закону мы имеем то, что имеем, а не то, что кому-то хотелось бы получить немедленно... Нет у нас губернаторов, сенаторов, мэров.

**Петр Филиппович ВАЩИЛКО,**
**житель г.Барановичи.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *Танцы ў касцёле*

***З аднаго боку, стаўленне дзяржавы да царквы змянілася. І я нават сказаў бы, што беларуская дзяржава пасябравала не толькі з праваслаўнай царквой, але і з каталіцкім касцёлам. Але, з другога боку, чуў, што і да сённяшняга дня ёсць каталіцкія храмы, прыстасаваныя пад чорт ведае якія ўстановы. Ці праўда гэта?***

**П.П.Сулыгін, г.Гродна.**

На тэрыторыі заходніх абласцей Беларусі сапраўды захаваліся два будынкі касцёлаў, перарobленыя савецкімі ўладамі пад іншыя патрэбы. Зараз у адным з іх знаходзіцца пажарная частка, а другі выконвае ролю гарадскога клуба.

Былы касцёл Святога Андрэя Баболі знаходзіцца ў аграгарадку Антопаль Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. Касцёл быў пабудаваны ў 1938—1939 гадах у стылі польскага функцыяналізму на ахвяраванні мясцовых землеўладальнікаў. Варта адзначыць, што Андрэй Баболя, у гонар якога і назвалі святыню, быў каталіцкім святаром, пакутнікам, празваным "Апосталам Палесся". Урачыстае асвячэнне касцёла адбылося напярэдадні пачатку Другой сусветнай вайны. У пасляваенныя гады касцёл быў зачынены і перабудаваны пад пажарную частку, якая знаходзіцца ў гэтым будынку і сёння.

Яшчэ адзін былы касцёл выконвае ролю гарадскога клуба Давыд-Гарадка Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Будынак быў пабудаваны ў 1935—1936 гг. у класічным для касцёлаў стылі. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР у верасні 1939 года тут быў зроблены клуб, і з тых часоў вернікам будынак так і не вярнулі.



ВСПОМНИЛОСЬ

## *Три копейки...*

Занимательная арифметика... Была когда-то и книга с таким названием Я.И.Перельмана. Тогда было много хороших книг и много другого хорошего.

На днях покупаю на почте маркированный конверт для отправки в Россию. Кассир называет цену. Подаю 10 тысяч (!) рублей. Небольшая сдача... Вспомнилось: письмо (конверт с маркой) стоило... три копейки. Три копейки... Это же надо, как долго я живу!

И еще: на Чукотке в пос.Танюрер я получил письмо из Белоруссии. Авиа. На второй день. Доказательство: дата написания (в письме). Но главное — два почтовых штемпеля. Сожалею, что не сохранил. Но, помнится, в гарнизоне долго потешались над адресом: Чукотка. Антону.

Письмо написал и отправил отец. Деревенский мужик. Хозяйство полубедняцкое. Но его письмо тут же отвезли в Минск. Из Минска — самолетом в Ленинград (почему-то не в Хабаровск). Там оно попало на рейс Ленинград—Анадырь. В Анадыре почту на Танюрер забрал наш экипаж (Ли-2). Письмо пришло Антону. Других Антонов там просто не было. А теперь... 10 тысяч рублей.

Письмо из Гомеля в Брянск идет месяц... Занимательная арифметика.

**Антон ПУЗАН.**

*Гомель.*

ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

# Забытые герои

457 белорусов и уроженцев нашей республики стали Героями Советского Союза, а шестеро из них — дважды Героями. 121 воину это звание было присвоено посмертно. 26 Героев погибли в последующих боях с врагом. 310 Героев прошли сквозь пекло Великой Отечественной войны и встретили Победу.

Но знают ли белорусы о подвигах своих славных сынов и дочерей? На столичном проспекте Независимости я провел опрос прохожих разных возрастов, чтобы выяснить, кого из белорусов и уроженцев Беларуси, Героев Советского Союза, знают наши люди? Называли героев по названиям улиц Минска: Кедышко, Машерова, Хоружей, Горовца, Казея, Гастелло, Матросова, Заслонова... Всего — не более 12 фамилий. Да, Матросов, Гастелло, Заслонов — герои. И, конечно, белорусы чтят их память по праву. Но на мой вопрос, повторил ли кто-либо из белорусов подвиг Матросова или Гастелло, ответ был отрицательным. А ведь это не так.

Почему белорусы не знают о пяти белорусах, повторивших подвиг Матросова? Это Прокофий Иванович Абрамов, Иосиф Романович Бумагин, Сергей Анисимович Коваленко, Иван Степанович Зайцев, Петр Иванович Куприянов.

Двое летчиков-белорусов повторили подвиг Гастелло: И.Б.Катунин и Е.А.Алехнович.

Партизан-подрывник (белорус) Петр Антонович Галецкий из отряда "Победа" 21 октября 1942 года с 20 килограммами взрывчатки бросился под фашистский эшелон с горючим и пустил его под откос. Через пять минут полыхал весь состав. Это единственный такой подвиг в войне. Но белорусы не знают о подвиге Галецкого.

В критический момент боя со связкой противотанковых гранат бросились под гусеницы вражеских танков:

Григорий Семенович Ковалев из деревни Б.Крушиновка Рогачевского района;

Павел Иванович Шнётный из деревни Гдень Брагинского района;

Владимир Степанович Лавринович из деревни Персы Вилейского района;

Виктор Андреевич Тумар из деревни Пелика Смолевичского района.

Взорвали последней гранатой себя и наседавших фашистов Семен Селивестрович Пустельников, Алексей Степанович Лукашевич, Леонид Дмитриевич Лорченко, Марат Казей... В современной истории их подвиг повторил Николай Петрович Чепик, уничтожив 30 моджахедов во время войны в Афганистане.

Когда я называю своим знакомым общее количество Героев Советского Союза, белорусов и уроженцев Беларуси, то слышу в ответ: "Не может быть!" Так почему наши люди не знают своих героев? А потому, что нет доступного, достоверного источника — книги, в которой были бы описаны подвиги всех 457 Героев Советского Союза, белорусов и уроженцев Беларуси.

Из патриотических побуждений, не преследуя никаких корыстных целей, я подготовил к изданию такую "Книгу памяти". В ней собраны сведения о всех Героях Советского Союза, белорусах и уроженцах Беларуси. "Книга памяти" в рукописном варианте (у меня нет соответствующей оргтехники) состоит из предисловия (планы фашистов в отношении СССР), основной части (освещение подвигов героев), послесловия (об увековечении имен героев, краткий хронологический очерк к 70-летию освобождения Беларуси и фотохроника войны). Однако издать эту книгу я нигде не могу. Государственные издательства даже не принимают рукопись к рассмотрению. Я нашел частное издательство, но, чтобы издать хотя бы 400 экземпляров (хотя это мизер для страны), необходимо заплатить издательству 22 миллиона рублей.

У меня таких личных сбережений нет. Причина проста: жена — учительница русского языка, я — учитель истории и обществоведения, так что не с чего нам было делать накопления. Оставался один выход: бить челом в госструктурах и просить профинансировать издание "Книги памяти". Я обратился в Министерство обороны. Военное ведомство в лице полковника Владимира Матвеевича Макарова в финансовой помощи отказало.

Вышел на директора Музея истории Великой Отечественной войны генерала Николая Витальевича Скобелева. Он просмотрел рукопись и сказал (дословно): "Книга нужная, ценная, но у нас нет свободных денег. А тут еще переезд..."

Написал обращение к председателю правления Национального банка Республики Беларусь Н.А.Ермаковой с просьбой принять меня в приемный день и указал причину. В приеме было отказано, а позже получил ответ (дословно): *"Сообщаем, что Ваше обращение по вопросу издания "Книги памяти" о героях Великой Отечественной войны по поручению председателя правления Национального банка направлено в Союз писателей Беларуси с просьбой высказать мнение о необходимости и целесообразности издания предложенной Вами книги в Республике Беларусь".*

Из Союза писателей — ни ответа, ни привета.

Дважды обращался к премьер-министру М.Мясниковичу как к председателю оргкомитета по подготовке и проведению празднования 70-летия освобождения Беларуси. Ведь бюджетом предусмотрены расходы на празднование. Неужели бюджет обеднел бы из-за этих 22 миллионов рублей? Однако оба обращения были направлены в Министерство информации. Меня даже пригласила на беседу первый заместитель министра информации Лилия Ананич (в настоящее время она уже министр). Однако вопрос положительно не решен.

Встречался я и с председателем Республиканского совета ветеранов, генерал-лейтенантом в отставке Анатолием Николаевичем Новиковым. Но пришел к нему отнюдь не за финансовой помощью, а за советом. Он внимательно выслушал рассказ о моих мытарствах, посмотрел рукопись и посоветовал обратиться к А.М.Радькову как председателю общественного объединения "Белая Русь". Я написал заявление на его имя с просьбой об аудиенции в любое удобное время. Даже ответа не получил.

К кому теперь идти? Я уверен — такая книга нужна! Она как минимум нужнее, чем пустые разглагольствования о воспитании патриотизма. Что мне теперь делать? Положить шапку у ног и с плакатом на груди встать на видном месте? Но это же будет просто позор: стоит человек и собирает милостыню на издание книг о героях-белорусах, потому что у государства на эти цели нет денег...

Имена многих наших героев, к слову скажу, никоим образом не увековечены (даже если говорить о высшем офицерском составе). Но когда-то ведь надо этим заняться, тем более что есть постановление Совета министров Республики Беларусь от 19.09.2008 г. за №1372 и закон от 16.11.2010 г. за №100-з, которые вменяют в обязанность местным поселковым, районным Советам заниматься увековечиванием памяти героев. Однако им проще прикрываться лозунгом "Помним всех поименно!" и не наполнять его содержанием.

Инициатива об увековечивании памяти героев уже исходит от обычных людей, потому что они понимают, что не помнить имен славных сынов нашей земли — это непростительно. Так, бывший директор Чирковичской средней школы Светлогорского района Мария Павловна Зыкун долго добивалась присвоения школе имени Петра Михайловича Стефановского. Ответственные чиновники даже не знали, кто это такой.

А это летчик-легенда, летчик-испытатель, равных которому нет в мире. Он освоил 317 (!) типов крылатых машин. 16 из них именно он поднял на крыло впервые. Провел 238 испытаний и совершил более 13.500 полетов. Эта цифра — НИКЕМ НЕ ПРЕВЗОЙДЕННЫЙ РЕКОРД! Стефановского Сталин не раз приглашал в Кремль, когда решался вопрос о выпуске в серийное производство тех или иных марок самолетов. В качестве командира 402-го истребительного авиационного полка он принимал участие в сражениях с фашистскими асами. Сбив бомбардировщик ДО-17Z, открыл свой фронтовой счет на той войне. Позже он был отозван с фронта для дальнейшей испытательной работы. Но его полк продолжал воевать и уничтожил в небе и на земле 810 немецких самолетов. Это был один из самых результативных полков в советских ВВС. Стефановский впервые поднял в небо реактивный самолет и выполнил на нем все фигуры высшего пилотажа. Именно Стефановский сформировал первый вертолетный полк и обучал летчиков.

Генерал-майор П.М.Стефановский умер 23 февраля 1976 года. Место на Новодевичьем кладбище для него нашлось лишь в стене колумбария... И только в 2006-м году, благодаря стараниям М.П.Зыкун, на стене школы появилась мемориальная доска, а сама школа стала носить имя позабытого Героя Советского Союза.

В преддверии 70-летия Победы надо увековечить имена героев, которые остаются неизвестными на своей родной земле. Мы обязаны их помнить, мы обязаны их знать, мы обязаны чтить их память.

В заключение я хочу обратиться к президенту Республики Беларусь. Александр Григорьевич, я прошел всех чиновников, от которых зависело решение вопроса по изданию книги о Героях Советского Союза — уроженцах Беларуси, но они ничего не сделали! Поэтому сейчас только от Вас зависит, будут ли белорусы знать своих героев и как будет идти процесс увековечения их памяти.

**Владимир Егорович МОМЛИЕНКО.**

*Минск.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## *«Цвярозы» дзень і «п'яны» год*

**У "дзень цвярозасці" ў Хойніках з вуліц райцэнтра ў міліцыю даставілі 10 п'яных, хоць у звычайныя дні затрымліваюць 1—2 чалавекі. Удвая больш было і выклікаў па трывожных сігналах.**

*А побыт наш, як кажуць, шэры —*
*Смерць і калецтва тут і там.*
*Чаму? Бо п'е народ без меры.*
*Прыняў рашэнне выканкам:*
*Правесці трэба "дзень цвярозы" —*
*Нібыта прыклад, як пачын,*
*Бо выпівакі — гэта слёзы*
*Дзяцей няшчасных і жанчын.*
*А што ж адметнае такое*
*Прыдумалі кіраўнікі?*
*Не будуць прадаваць напоі*
*Ні магазіны, ні ларкі.*
*Народ, вядома, знаў пра гэта*
*(І рыхтаваўся ён да "дня"),*
*Бо абвясцілі райгазета*
*І ідэолагаў гайня.*
*Усе, хто да "чарніла" ласы,*
*Каб не сасмяг у дзень той рот,*
*Зрабілі загадзя запасы —*
*На тыдзень нават напярод.*
*Ды што й казаць: не выпівакі,*
*Што "мочаць горла" ў месяц раз,*
*Сабе на выпадак усякі*
*Зрабілі хоць які запас.*
*Яно й не дзіўна: раптам госці*
*Наведаюцца ў гэты дзень.*
*Дык трэба ж ім наліць хоць штосьці:*
*Застолле без гарэлкі — дрэнь.*
*Настаў той дзень.*
*Малюнак дзіўны:*
*Ля крамаў — ні адной душы.*
*Ды зранку "на рагах" хадзілі*
*Усе апойкі-алкашы.*
*Што назапасілі на тыдзень —*
*За дзень кульнулі ў гарлякі.*
*(Да іх, бадай, не хутка прыйдзе*
*Шчаслівы вельмі дзень такі.)*
*А што было рабіць тым часам*
*Усім насельнікам, калі*
*Пітва накуплена з запасам,*
*А госці так і не прыйшлі?*
*Яшчэ ж і закусі багата,*
*Імпэт да зносін немалы...*
*Яны сабе зрабілі свята —*
*Паселі самі за сталы.*
*"Гудзелі" і дамы, і хаты!*
*Пілі жанкі і мужыкі!*
*Увесь вясковы люд "паддаты",*
*Ну а тым болей — гарадскі.*
*З усіх акон гучалі песні*
*І не змаўкалі да зары.*
*А як камусьці ў сценах цесна —*
*Ішлі на вулкі і ў двары.*
*А там, дзе нападпітку людзі,*
*Усё, як кажуць, на мяжы:*
*Хапае хто-ніхто за грудзі,*
*А хто-ніхто бярэ нажы...*
*Міліцыя сабрала потым*
*Багаты вельмі ураджай.*
*Хто на газоне, хто пад плотам —*
*Бяры і ў "варанок" піхай.*
*І што чыноўнікі займелі*
*З тых "антыалкагольных мер"?*
*Наступны дзень —*
*Як "дзень пахмелля"*
*Патрэбна аб'яўляць цяпер.*

* * *

*Улада, калі маеш розум,*
*Дык больш з пачынамі не лезь:*
*Навошта гэты дзень цвярозы,*
*Калі ў нас п'яны год увесь?..*

АБЗАЦЕМ

## *Почему?*

Почему мы не знаем зарплаты чиновников высшего ранга, своих депутатов? Почему мы не знаем, что они делают в Минске, как голосуют? Нам говорят, что там все законы принимаются единогласно. Разве мы для этого их содержим, чтобы они любое решение поддерживали?

**С уважением —**

**В.СТЕПАНИЩЕВ.**

*Витебск.*

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# Госця

Сацыяльны работнік Валянціна Язерская выйшла з аўтобуса на шашы і па замеценай дарозе накіравалася да вёскі Шашкевічы. Ісці трэба было добрыя тры кіламетры. Спадзявацца на спадарожную машыну не выпадала, бо выміраючая вёска, дзе жывуць пяць старых бабулек і два дзяды, нікога не цікавіла. Валянціна ездзіла сюды з райцэнтра два разы ў тыдзень: вазіла лекі, прадукты, якіх не было ў аўталаўцы. Пакуль давалачэ па бездарожжы сумку, ужо хочацца адпачыць, а яшчэ трэба перарабіць шмат работы: прыбраць у хатах, згатаваць есці, паслухаць аповеды старых пра іхнія балячкі.

Да вечара ўжо неставала ні на што сіл, а яшчэ ж тры кіламетры дабірацца да шашы, там дубець у чаканні транспарту.

Валянціна не любіла ездзіць у гэтую вёску, але куды дзенешся: ёй заставалася чатыры месяцы да пенсіі, і трэба было неяк дарабіць. Не любіла з-за бабы Зіны Таранчук, бо вельмі ж з'едлівая і злосная яна кабета. Як ні рабі — ёй не патрапіш, замест падзякі — папрокі і нараканні. З яе хаты заўсёды і пачынала работу.

Падышоўшы да ганка, узяла шуфель, што быў прыхілены да сіняй шалёўкі, і пачала расчышчаць сцяжынку да вуліцы, змяла снег з прыступак. Толькі хацела пастукаць у шыбу, як дзверы адчыніліся і на парозе з'явілася гаспадыня.

— Што, не магла акуратней пачысціць?! — накінулася яна. — Не паспееш адысціся, як зноў замяце. Чакай цябе потым два дні. Гэтак і з хаты не вылезеш.

Валянціна прамаўчала. Яна заўсёды маўчала на папрокі і кпіны старой Таранчучкі, як называлі Зіну ў вёсцы, бо толькі адкажы, дык зараз жа пазвоніць начальству і будзе скардзіцца на грубасць і няўвагу.

Зайшоўшы на кухню, убачыла на вешалцы дарагое норкавае футра, а ля печкі стаялі прыгожыя боты з доўгімі халяўкамі. Побач ляжала куча ўсякага смецця, дробныя трэсачкі і пілавінне ад дроў, якія чамусьці не спалілі. На стале стаяў брудны посуд, некаторыя талеркі былі закарэлыя, відаць, іх ужывалі ўчора ці, можа, навата і пазаўчора, бо вараная бульба на адной ажно пасінела, на дне дзвюх шклянак віднелася чайная заварка.

— Мама, хто там прыйшоў? — пачуўся са спальні лянівы жаночы голас.

— Спі, дзіцятка, спі, гэта работніца нарэшце прывалаклася. — І ўжо да Валянціны:

— Ты не распранайся, а ідзі дроў прынясі ды вядро брыкету, бачыш жа, што ў хаце як у лядоўні. Потым вады прынясеш ды нагрэеш на газавай пліце, бо мая Ядзечка хоча памыцца.

Калі вярнулася з дрывотні, убачыла за сталом на кухні мажную кабету. Яна была маладая, але тоўстая, як цэбар. Квяцісты халат ледзь сыходзіўся на жываце. Яна барабаніла па стале доўгімі, як кіпцюры, накладнымі пазногцямі і з пагардай глядзела на Валянціну.

— Мама, а чаму да цябе работніца так позна прыходзіць? Я ўжо есці хачу, а яшчэ нічога не згатавана.

— А халера іх ведае, што ў іх там за парадкі такія! — абурылася Таранчучка. — І гэтак жа заўсёды. Людзі зараз абедаць будуць, а мы яшчэ не снедалі.

Валянціна запаліла ў печцы і, калі дровы разгарэліся, паставіла да полымя чыгунок з вадой, ведала, што без бульбяной кашы са смажаным салам абедзве Таранчучкі за стол не сядуць. Малодшая жыла ў Мінску, была жонкай нейкага начальніка, вёскай пагарджала, але ад бульбы з салам адмовіцца не магла.

Калі бульба была пачышчана і памыта, Валянціна заліла яе гарачай вадой, падсунула да агню і ўзялася мыць посуд. Потым вымыла падлогу.

— Слухай, работніца, і колькі ж табе плацяць? — пацікавілася малодшая, нанізваючы на тоўстыя пальцы залатыя пярсцёнкі.

— Пятую частку аднаго вашага пярсцёнка, — пачула ў адказ.

— І гэтага зашмат, Ядзечка! У мінулы раз дала ёй стос бялізны, каб пазашывала, то адмовілася, маўляў, і без таго клопатаў хапае. Разбэсціліся, дачушка, разгультаіліся, абы толькі грошы заграбаць.

Выкруціўшы анучу, Валянціна накіравалася з памыямі на двор.

— Ты ж брудную ваду не вылівай на падворку, на вуліцу нясі! — загадала старая. — А то заўсёды за хлеў выносіш.

— На вуліцу нельга, сорамна брудзіць... — Валянціна спынілася ў парозе.

— Рабі, што табе кажуць! За хлявом — мой участак, а вуліца агульная.

— Ну і нахабная ў цябе работніца! Яшчэ і спрачаецца, — вылупіла вочы Ядзя.

— Вось сама ўзяла б і вынесла! — цярпенне ў Валянціны было на зыходзе.

— Яна мая госця! — заступілася за дачку старая Таранчучка. — А табе за гэта грошы плацяць!

— Я нават уявіць сабе не магу такога, каб прыехала да мамы і не памыла падлогу, пакінула на стале брудныя талеркі, дроў ды брыкету ў хату не прынесла. Што, рукі паадвальваюцца?! Сорамна табе, Ядзя! Якая ты дачка пасля гэтага? Госця ў роднай хаце, — з вачэй Валянціны пакаціліся слёзы. — Нагі маёй тут больш не будзе!

Яна апранула куртку, узяла сумку і ледзь не подбегам кінулася з хаты. Ужо на вуліцы адчула: у плечы ёй калолі шылы-позіркі абедзвюх Таранчучак.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

**P.S.** Па этычных і юрыдычных прычынах прозвішчы ўзгаданых у артыкуле асоб зменены.

КУТОК СПАЖЫЎЦА

## *Кароткі шнур ці кароткі розум?*

На дзень нараджэння мне падаравалі прасавальную дошку. Шмат гадоў, уладкоўваючыся з прасам ці то на кухонным стале, ці на пісьмовым, шкадавала, што ўсё не атрымліваецца набыць такое патрэбнае прыстасаванне. І вось нарэшце!

Нават залітаваная ў поліэтыленавую плёнку, мая новая памочніца выглядала вельмі прывабна: прыгожы чахол, тонкія эмаліраваныя ножкі... Раскрыўшы яе, упэўнілася, што вытворца паклапаціўся, каб выкарыстанне дошкі было зручным: сама яна лёгкая, устанаўліваецца на патрэбную вышыню адным рухам, стаіць упэўнена, не хістаецца, ёсць падстаўка для праса. Паверхня пругкая, але дастаткова цвёрдая. Паколькі не раз цікавілася гэтым таварам у крамах і на рынках, ведаю, што яго вырабляюць і туркі, і кітайцы. А над маёй прыгажуняй хто шчыраваў? О, прыемны сюрпрыз: дошчачка беларускай вытворчасці!

Ну як не скарыстацца такім цудам! Падрыхтавала ладны стосік бялізны, павярнулася да дошкі... І — зноў у думках пахваліла беларускіх вытворцаў: для зручнасці спажыўца да яе прымацавана разетка з шнуром. Цяпер не трэба шукаць, дзе ўладкавацца, каб падключыць прас, і не трэба цягнуць падаўжальнік праз паўкватэры. Стаў гэтага коніка куды хочаш, уключай дошку ў электрычную сетку, а прас — у дошку.

Раскруціла шнур дошкі і павярнулася да разеткі... Не дацягваецца. Паспрабавала перанесці да іншай сценкі — не падлезці. Склала дошку і панесла яе ў другі пакой. Нават калі шнур можна падключыць, дык да дошкі не падысці... Даўжыня шнура аказалася 107 сантыметраў.

У рэшце рэшт у трохпакаёвай "брэжнеўскай" кватэры знайшлося адно месца, дзе можна, уключыўшы дошку ў разетку, з аднаго боку падысці да яе, — у нашым маленькім передпакоі. Праўда, тады перасоўванне па кватэры іншых членаў сям'і вельмі ўскладняецца.

Узгадалася апавяданне Тэфі "Жыццё і каўнер". Жанчына набыла накрухмалены каўнерык, да якога спатрэбіліся новыя кофтачка, спадніца, шляпа, пальчаткі... І ў выніку ўсё яе жыццё змянілася беззваротна. Магчыма, беларускія вытворцы лічаць, што пасля набыцця прасавальнай дошкі кожны пакупнік павінен палепшыць свае жыллёвыя ўмовы: ці то памяняць мэблю альбо зрабіць перастаноўку, ці то набыць кватэру з асобным пакоем для гаспадарчых патрэб.



**Аляксандра БАТУРЫНА.**

*Мінск.*

